Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

выпуск 13 (26)

6 красавіка 2021

***Жорсткія няспынныя рэпрэсіі пакідаюць адбітак на кожным з нас, часам сіл застаецца толькі на веру, часам хапае на дзеянне, а часам – на просьбу ад падтрымцы. Нашая сіла ў творчасці і салідарнасці.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД

**Алеся Пушкіна, мастака, 31 сакавіка затрымалі і абвінавачваюць па Артыкуле 130 ч.3 КК РБ – распальванне нацыянальнай, расавай ды іншай варажнечы групай асобаў. Яму пагражае пазбаўленне волі ад 5 да 12 гадоў.**





**Міколу Дзядка змясцілі ў карцар: 27 сакавіка на прагулцы нехта крыкнуў «Жыве Беларусь!», Мікола падтрымаў і за гэта атрымаў 9 сутак карцэра. Таксама на Міколу завялі новыя крымінальныя справы: цяпер яго вінавацяць па трох артыкулах: арт. 342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак), ч. 3 арт. 361 (Заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Беларусі пры дапамозе сеткі Інтэрнэт), ч. 1 арт. 295-3 (Незаконныя дзеянні ў дачыненні да прадметаў, дзеянне якіх заснавана на выкарыстанні гаручых рэчываў) Крымінальнага кодэкса.**

**Вользе Завадзкай і Юліі Бадак прызначана пакаранне ў выглядзе трох гадоў «хатняй хіміі», Андрэю Коласу суддзя прызначыла тры гады «хіміі» – за вывешанае ў Брэсце пудзіла, якое было падобнае да Лукашэнкі.**

**Кніга «Беларуская нацыянальная ідэя» рэдактара Euroradio Змітра Лукашука і філосафа Максіма Гарунова прызнаная экстрэмісцкай. За яе захоўванне і распаўсюд цяпер могуць аштрафаваць.**

**Ягора Старавойтава судзілі 1 красавіка за «захоўванне» кнігі «Беларуская нацыянальная ідэя». Справу даслалі на дапрацоўку.**



**Вікторыі Міронцавай** **<u>прысудзілі</u>** **2,5 года зняволення ў калоніі агульнага рэжыму, а ейнай сястры Настассі – 2 гады. Дзяўчат вінавацілі ў «актыўным удзеле ў групавых дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак» і «гвалце або пагрозе прымянення гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў МУС» 10 жніўня 2020 году. Вікторыю Міронцаву таксама абвінaчвалі ў «супраціве супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак».**

**26-гадовая Вікторыя з адукацыі – мастачка-настаўніца, ае 24-гадовая сястра Настасся – студэнтка шостага курсу Акадэміі мастацтваў.**

**Газета «Новы час» – адзіная ў краіне штотыднёвая незалежная беларускамоўная газета – <u>атрымала</u> папярэджанні ад Мініфарма за чатыры артыкулы.**

**«Новы Час» надае шмат увагі культуры і мастацтву і выдае штомесячны дадатак «Літаратурная Беларусь». Да таго ж газета з'яўляецца важнай крыніцай інфармацыі для зняволеных (паступае па падпісцы).**




Говорить правду - Не врать

**Гурту «Крама» <u>адмовілі</u> ў правядзенні канцэрта ў Мінску.**
**Гастрольныя пасведчанні не атрымліваюць усе, хто выступалі на дваровых імпрэзах.**
**Таксама песні легендарнага гурта перасталі круціць на беларускім радыё.**



**Арт-прастору «Месца», дзе адбывалася выстава «Машына дыхае, а я не», прысвечаная медыкам, 2 красавіка зачынілі па рашэнні МНС. 5 красавіка арганізатарак выставы і актывістак Грамадскага аб'яднання "Звяно" Наталлю Трэніну, Таццяну Гацуру-Яворскую і Юлію Семчанка <u>затрымалі</u> пасля вобшукаў у іх кватэрах, яны знаходзяцца на Акрэсціна.**

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі 2 красавіка ў першым чытанні <u>прыняла</u> законапраект «Аб змене законаў па пытаннях супрацьдзеяння экстрэмізму».**

# 2. СІМВОЛІКА



**Ужо, на жаль, традыцыйна:**
**15 сутак за бчб налепку на машыне,**
**штраф 290 рублёў за шторы і стужачкі, павязаныя на галінку дрэва,**
**штраф 1740 рублёў за дзве палоскі сайдынгу маці траіх дзяцей,**
**штраф 1740 рублёў за герб «Пагоня» на балконе.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



31 сакавіка і 1 красавіка адбылася прэм’ера спектакля «Застацца нельга з’ехаць» незалежнай тэатральнай кампаніі HomoCosmos. У ім іграюць акцёры, што ўвосень супольна сышлі з Новага драматычнага тэатра, а ставіць яго вядомы беларускі драматург і рэжысёр Дзмітрый Багаслаўскі.

Кароткаметражная анімацыя «Магутны Божа» беларускай аніматаркі Юліі Рудзіцкай трапіла ў конкурс Annecy Festival 2021, які штогод ладзіцца ў Францыі ў пачатку лета.






Сучасны Мастацкі Тэатр, ва ўмовах забароны жывых паказаў, 1 красавіка паказаў анлайн-спектакль «Гэтадемакрэйшен».

Гурт Nizkiz выпусціў новую песню, якая вельмі адпавядае настрою ў Беларусі пачатку вясны 2021.





3 красавіка, працяг серыі LIVE канцэртаў Артысты Перамогі: Аляксандр Памідораў, «Красавіцкія тэзісы».







**Магілёўскія журналісты** прайшліся па пазнавальных месцах горада і зрабілі атмасферныя фотаздымкі з важнымі пасланнямі.






**Словы мацней:**

**Зарына Шаўко, музыка і вакалістка гурта сярэднявечнай беларускай музыкі «Літы Талер», затрыманая 22 лютага ў Мінску і асуджаная на 15 сутак адміністратыўнага арышту, чытае верш аднаго з наймаладзейшых паэтаў-ахвяраў сталінскага тэрору Юлія Таўбіна, расстралянага ў 1937.**

## **Новыя малюнкі**,
**якія адлюстроўваюць нашу рэальнасць**




**karikatu.rama**
**«С каждой пачки -диктатору в заначку…»**




**Ліля Квацабая**
**«Котики-беларусы»**

**Вольга Якубоўская**
**«Экскурсия Свободы»**



# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Віталь Алексяёнак, дырыжор мюнхенскага аркестру, на замову буйнога нямецкага выдавецтва напісаў кнігу «Белыя дні Менску» пра мірны беларускі пратэст, удзельнікам якога быў у жніўні і верасні.**
***«Спадзяюся, што найперш яна будзе цікавая нямецкаму чытачу, нямецкамоўнаму чытачу, які не ведае і не разумее наш кантэкст, які пра Беларусь даведаўся толькі ў жніўні і ведае павярхоўна толькі тое, што адбыўся гвалт і нейкія праблемы з выбарамі. У кнізе я шмат апісаў таго, што нам і так зразумела, – пра прэзідэнцкую кампанію, пра тое, што адбывалася ў пандэмію, пра вельмі бачную мяжу паміж беларускім грамадствам і рэжымам, якія ўсё больш ідуць рознымі шляхамі».***

**Валерыя Баравец, журналістка, пра карціну «Ева» Хаіма Суціна і тое, як арыштаваная карціна стала сімвалам пратэсту.**
***«Ева оказалась не из робких. Обиды не забыла, вторую щечку подставить не поспешила. Месть получилась изящной. Она просто была хорошей подругой, и когда ее забрали, мы – заметили и вышли на ее место.***
***И на место каждой арестованной Евы становились две новые».***






**Ігар Банцар распавядае пра свой стан пасля арышту і галадавання.**
***«Ментальна я ў добрым стане, бо быў падрыхтаваны ў першую чаргу ідэалагічна. Я маю на ўвазе ўсю гэтую сітуацыю – і сам арышт, і тое, што адбываецца ў краіне ў палітычным плане. Але датычна фізічных, фізіялагічным момантаў, тут ёсць пытанні. І з крывёй, напрыканцы тыдня буду здаваць наступны тэст на кроў. Ёсць пытанні з унутранымі органамі».***

**Аляксей Бацюкоў**, звольнены дырэктар музея Магілёва, пра тое, чаму ён выходзіў на пратэсты ў 2020 годзе.
***«Я выходзіў, таму што гэта, па-першае, мая грамадзянская пазіцыя. І па-другое, я спецыяліст – на той момант гісторык, – таму я павінен бачыць, што адбываецца, сваімі вачыма. Я магу прачытаць у розных крыніцах, што недзе выйшлі людзі. А хто гэтыя людзі? Як гісторык я магу зафіксаваць падзеі, знаходзячыся непасрэдна на месцы падзей, размаўляючы з людзьмі».***





**Сям'я Доўнар**, заснавальнікі брэнда Honar, пра тое, як гэта – быць беларускамоўнай сям'ёй у Беларусі.
***«У нас за беларускасць трэба змагацца. Хочаш у школу з роднай мовай – ездзі ў дальнюю гімназію, у садок – шукай таксама. З аднаго боку цяжка, бо хочацца, бывае, паспаць болей, але калі ёсць мэта, то робіш усё магчымае».***

Фота: Надзя Бужан



**Беларускія фатографы і фатографкі** ў матэр'яле Медузы распавядаюць, як яны асэнсоўваюць новую рэальнасць і што здымаюць, калі фотажурналістыка стала вельмі небяспечнай.

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



Вялікі мурал, асновай якога стаў малюнак беларускі Анны Радзько, з’явіўся ва Уроцлаве і быў ініцыяваны Еўрапарламентам.



У галерэі Newman's Fine Art у Сан-Францыска днямі адкрылася выстава Face It, прымеркаваная да беларускага Дня волі.










**Італьянскі графік Джанлука Канстанціні** выказаў салідарнасць са зняволенымі Кацярынай Андрэевай, Дар’яй Чульцовай і Ігарам Лосікам.



Вулічная выстава фатаграфіі пра беларускія пратэсты ў Грайфсвальдзе, Германія.

